


ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №17 (127)
СНЕЖАНЬ 2012 ГОДА

**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ШТО ГОД ЧАРГОВЫ НАМ РЫХТУЕ?

**Напрыканцы года прынята падводдзіць такія-сякія вынікі, рабіць падсумаванне зробленаму, пражытаму, дасягнутаму. Не прэтэндуючы на асаблівую глыбіню і аб'ектыўнасць зробім гэткі прыватны агляд і мы.**

Першае, што хочацца зазначыць: год, які пачынаўся з крушэння круізнага лайнеру " Коста Канкордыя", а завяршаўся хваравітым чаканнем канца свету, скончыўся як і заўжды – Божым нараджэннем і чарговым Новым годам.

У сферы палітыкі 2012 год выдаўся ўраджайным на прэзідэнцкія выбары. У сакавіку яны прайшлі ў Расеі: перамог Уладзімір Пуцін, а крэсла прэм'ер-міністра само сабой перайшло да Зміцера Мядзведзява.

У Францыі на дзясятых выбарах прэзідэнта краіны Франсуа Аланд абыйшоў Нікаля Сарказі.

Але самымі чаканымі прэзідэнцкімі выбарамі, сталі выбары ў ЗША. Перадвыбарная кампанія стартавала напачатку студзеня і доўжылася да 10 лістапада, завяршыўшыся перамогай Барака Абамы над Мітам Ромні.

У Беларусі ж само сабой нічога не памянялася, нягледзячы нават на парламенцкія выбары – ніводзін апазіцыйны кандыдат у " палатку" не трапіў. Знакавыя фігуры беларускай палітычнай рэальнасці альбо па-ранейшаму за кратамі( Статкевіч, Дашкевіч, Бяляцкі), альбо за межамі сваёй краіны.

Увесь 2012 год сусветная грамадскасць сачыла за справай былога дырэктара-распарадчыка Міжнароднага валютнага фонду Дамініка Строс-Кана, якога вінавацілі ў гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару.

У Расіі ўдзельніцы гурта " PussyRiot" былі асуджаны Хамоўніцкім судом Масквы да 2 гадоў зняволення.

Суд Осла ў канцы жніўня прысудзіў да 21 году турэмнага зняволення «нарвежскага стралка» Андэрса Брэйвік, у выніку дзеянняў якога загінулі больш за 70 чалавек.

А вось у Менску за арганізацыю выбуху ў менскім мятро ў сакавіку месяцы былі пазбаўленыя жыцця і непасрэдны выканаўца Дзміцер Канавалаў і ягоны саўдзельнік Уладзіслаў Кавалёў.

У 2012 г. свет быў узрушаны падзеямі ў Сірыі і Егіпце, канфліктам паміж Ізраілем і Палісцінай.

У Беларусі у гэтым годзе адбыліся не менш рэзанансныя падзеі: краіна прайшла праз выпрабаванне " плюшавым бамбаваннем". Ахвярамі гэтага бамбавання-дэсантавання плюшавых цацак сталі вышэйшыя вайсковыя камандзіры, знятыя Лукашэнкам са сваіх пасадаў.

І калі эканоміка шэрагу еўрапейскіх дзяржаваў перажыла ў 2012 г. нямала эканамічных праблемаў, наступствамі якіх сталі пратэсты насельніцтва ў Грэцыі, Гішпаніі і іншых краінах, то ў Беларусі, нягледзячы на ўстойлівы рост коштаў, – усё спакойна. А напрыканцы году прагучалі нават заявы пра заўважнае падвышэнне заробкаў сярод простых беларусаў. Так т.Касінец запэўніў вышэйшага кіраўніка, што віцебчукі да канца году адшукаюць у сваіх кішэнях ажно 500 даляраў, а т. Тозік і наогул налічыў 1200 даляраў сярэдняга заробку. Выходзіць, тут па-ранейшаму важна не тое, як, хто працуе, а, як, хто ліча.

Як бачна з трансляцыяў БТ, "чалавекам году" стаў самі ведаеце хто, хаця некаторыя лічаць, што гэтак абазваць можна было б спадароў М. Статкевіча, Зм. Дашкевіча, А. Бяляцкага, альбо настаўніка БАТЭ В. Ганчарэнку.

Сярод мясцовых падзеяў трэба выдзеліць вызваленне Сяргея Каваленкі ды адкрыццё сеткі крамаў " Еўраопт" па ўсім горадзе, наведванне якіх становіцца цэлай падзеяй для сям'і, а ўражанні перадаюцца суседзям і калегам па працы. Невялікая ўцеха для насельнікаў краіны, дзе праблемаў настолькі шмат, што людзі ўважаюць за лепшае зусім не звяртаць на іх увагі.

2012 ужо сыходзіць у мінулае, а вось што прынясе 2013 пакуль не ведае ніхто, хаця тое, што тычыцца Беларусі больш-менш вядомае. Як казаў мой памерлы бацька, нічога тут не было– нічога й не будзе. Пажывём – пабачым.

**Рэдактар.**

ДЭМАГРАФІЯ

# Факты – рэч упартая

*На ўсіх узроўнях улада заклікае беларусаў выпраўляць негатыўны дэмаграфічны баланс у краіне. У лютым 2012 г. рашэннем райвыканкаму былі зацверджаны мерапрыемствы па рэалізацыі ў раёне Праграмы дэмаграфічнай бяспекі. Звернемся ж да статыстычных дадзеных і паглядзім рэальнасці ў вочы.*

Па выніках трох кварталаў года ў раёне павялічылася нараджальнасць на дзесяць з паловай адсоткаў у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. У студзені-верасні з'явіліся на свет 325 маленькіх грамадзянаў.

Узровень смяротнасці зменшыўся на 124 і склаў 505 чалавек. Адзначаецца і запаволенне тэмпаў натуральнага змяншэння насельніцтва – мінус 180 чалавек сёлета супраць мінус 335 за 9 месяцаў мінулага году.

Зменшылася смяротнасць з-за хваробаў сістэмы кровазвароту (на 12,8%), органаў дыхання (54,1%), стрававання (42,9%), наватвораў (18,4%). Паменшылася колькасць выпадковых атручванняў алкаголем з 23 у 2011 г. да 7 у гэтым годзе. З 11 да 4 фактаў зменшыліся і паказчыкі смяротнасці ў выпадках, злучаных з транспартнымі сродкамі, уключаючы недарожных.

З мэтай ранняга выяўлення захворванняў педыятары прафілактычна аглядаюць дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў два разы на год. На базе Віцебскай гарадской цэнтральнай дзіцячай паліклінікі функцыянуе цэнтр здароўя моладзі.

Праграма дэмаграфічнай бяспекі ўключае комплекс мерапрыемстваў – ад фармавання здаровага ладу жыцця і ўмацавання аўтарытэту сям'і да прафілактыкі п'янства і стварэння прывабных умоваў працы.

Але, як бачым, нягледзячы на ўсе заклікі і станоўчыя захады ды тэндэнцыі, факт застаецца фактам: 325 нарадзілася – 505 памерла. Відаць, каб пераламіць сітуацыю трэба нешта памяняць куды больш радыкальна.

**Ян Сведка.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# Візіт запомніцца

**14 снежня Аляксандр Лукашэнка наведаў ААТ «Віцебскдрэў». Гэтай падзеі папярэднічаў цэлы шэраг захадаў мясцовай улады, якія інакш, як часовым звар'яценнем не назавеш: да прыезду першага чыноўніка разбурылі цэлую вёску, пафарбавалі фасады дамоў, паклалі на мокрую аснову асфальт, паабразалі дрэвы, павыкарчоўвалі кусты, паклалі плітку і нават зрабілі клумбы — дарма што на двары зіма. У якую суму абышлася дзяржаўнаму бюджэту гэтая паказуха, вядома, не паведамляецца – галоўнае захаваць неабходны выраз твару пры дрэннай гульні.**

Жыхары вёскі Паўлавічы, якая ўваходзіць у межы Віцебска, руйнаванне сваіх хат, гаспадарчых пабудоваў і садоў звязалі з чаканым прыездам Лукашэнкі. Хто распараджэўся гэта рабіць, яны не ведаюць: ніякіх афіцыйных папераў ім не паказалі. Проста прыйшлі людзі, назваліся прадстаўнікамі Першамайскага райвыканкама і загадалі за два дні вывезці маёмасць і выехаць самім.

Як распавядалі сведкі, некаторыя людзі нават не паспелі прыбраць свае рэчы. Проста падыходзіў экскаватар і бурыў хаты. Здымаць тое, што адбываецца навокал, мясцовым жыхарам было забаронена. Яны звярталіся на дзяржаўнае тэлебачанне, але ніякай рэакцыі не дачакаліся. Тады звярнуліся да незалежных журналістаў, бо хаты разбураюць, сады ды гароды нішчаць, і ніхто не збіраецца кампенсоўваць гэтыя страты.

Па словах тых, хто назваўся прадстаўнікамі Першамайскай раённай адміністрацыі, вёску павінны былі знесці яшчэ ў 1992 годзе. Праўда, тады частку хат знеслі, бо планавалі пабудаваць новую ЦЭЦ. Зямлю аддалі ў арэнду энергетыкам, але тыя за 20 гадоў так і не распачалі будоўлю. Сёлета жыхарам паведамілі, што ЦЭЦ тут будаваць ужо не будуць і што ўсіх вяскоўцаў у перспектыве чакае знос. Але не раней як увесну.

Абразіла вяскоўцаў тое, што высяляцца іх прымусілі тэрмінова, прычым узімку, выстаўляючы людзей літаральна на мароз. І толькі таму, што па дарозе ўздоўж іхнай вёскі мусіў ехаць Аляксандар Лукашэнка. Справа ўскладнілася яшчэ і тым, што ў вёсцы засталіся амаль адны старыя, якіх мусілі пазабіраюць да сябе дзеці і ўнукі, бо іхнія хаты, за два дні прызнаныя «нічыйнымі», бурылі і палілі разам з садамі і ўсімі гаспадарчымі пабудовамі.

У звязку з гэтай падзеяй трэба разглядаць і спыненну руху трамваяў у раёны «Маркаўшчына» і «ДСК», а гэта асноўны транспарт для тых, хто працуе ці жыве у гэтай часцы Віцебска. Але гэтая праблема мала клапаціла ашалелае ад тэрміновага прыезду " барына" мясцовае кіраўніцтва.

Зранку 3 снежня трамваі яшчэ хадзілі, і людзі змаглі дабрацца на працу, а вось вяехаць пасля працы аказалася праблемай: трамвайны рух спынілі, бо на вуліцы Горкага клалі новы асфальт.

Здараліся і зусім абсурдныя сітуацыі: пад час падрыхтоўкі фотарэпартажу пра прадрытоўку да прыезду Лукашэнкі ў гэты ж дзень спецслужбы затрымалі рэдактара сайту «Народныя Навіны Віцебску» Сяргей Серабро. Праз паўгадзіны супрацоўнікі міліцыі яго адпусцілі, але неўзабаве на тэрыторыі дрэваапрацоўчага камбінату зьявіліся «амонаўцы» і «людзі ў цывільным» — для дадатковай аховы.

Візіт Аляксандра Лукашэнкі рыхтаваўся пад наглядам міліцыянтаў, якія дзяжурылі на прадпрыемстве нават начамі. Некалькі тыдняў рамантавалі цэхі, клалі ходнікі. Але ў дзень візіту было загадана, каб «лішніх» работнікаў па прадпрыемстве не было. Таму некаторыя атрымалі загад не выходзіць на працу ўвогуле.

На прадпрыемстве «Віцебскдрэў» яшчэ тры гады таму павінны былі запусціць вытворчасць адмысловых матэрыялаў для падлогі і мэблі. Але тэрміны ўжо чатыры разы пераносілі, а тым часам абсталяванне для новай вытворчасці так і ляжала ў двары.

Справаздачу перад вышэйшым кіраўніком трымаў старшыня аблвыканкаму Аляксандар Косінец. Ён абяцаў, што адміністрацыя дрэваапрацоўчага камбінату больш не дапусціць марнавання часу, што ўсе інвестыцыйныя праекты будуць паспяхова завершаныя, што заробкі на Віцебшчыне растуць хутчэй, чым дзе ў Беларусі, і што ўжо ў снежні сярэдні заробак складзе 580 даляраў. А да 2015 году — і ўсю тысячу…

Аляксандар Лукашэнка заявіў, што ўсе мусяць працаваць «дзень і ноч», "як у ваенны час». Але адзначыў, што заўважае у развіцці вобласці станоўчую дынаміку.

Пакуль дэлегацыя кіраўніцтва вобласці і краіны наведвала «Віцебскдрэў», у кожным двары паблізу дзяжурылі «людзі ў цывільным» з партатыўнымі рацыяміі-навушнікамі. І амаль у кожным трамваі, які рухаўся ў бок раёнаў «Маркаўшчына» і «ДСК», за пасажырамі сачылі супрацоўнікі міліцыі. А тыя, каму даваліся ісці пехам, адзначалі ня толькі пільнасць спэцслужбаў, але і надзвычайную старраннасць камунальнікаў. На дарогі і ходнікі было насыпана столькі сумесі жвіру і солі, што мінакі ўголас шкадавалі свой папсаваны абутак.

Вось такая яна перавёрнутая рэальнасць у краіне, дзе народ моўчкі згадзіўся з роллю дэкарацыі, на фоне якой дарослыя прыўладныя дзядзькі пускаюць адзін аднаму пыл у вочы і ніколькі гэтага не саромяцца.

**Якаў Дрозд.**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***

***• Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***

***• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч волі».***

***• Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ПАДЗЕІ

# ПРА ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА РАСКАЗАЛІ І ВІЦЕБСКІМ МІЛІЦЫЯНТАМ

**Дэмакратычныя актывісты Віцебску правялі публічную лекцыю «Што такое правы чалавека, і як яны выконваюцца ў Беларусі». Яе прачытаў каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў.**

Публічную лекцыю мясцовыя актывісты арганізоўвалі ўпершыню. Гэты фармат абралі таму, што на правядзенне такога кшталту мерапрыемства ня трэба браць дазвол ва ўладаў, апавёў спадар Жаляпаў:

«Для таго каб правесці лекцыю, не патрэбны ніякі дазвол. Дзе мы яе будзем праводзіць — гэта ўжо наша воля. Мы вырашылі, што правядзем тут, у парку. Гэтае месца афіцыйна вызначана для правядзення масавых мерапрыемстваў. Калі я прыйшоў за 20 хвілін да пачатку, да мяне падышоў падпалкоўнік міліцыі і спытаўся, ці падаваў я заяўку. Я сказаў, што не падаваў. Ён мяне папярэдзіў, што калі раптам недазволенае мерапрыемства будзе праводзіцца, то ён будзе вымушаны прадпрымаць пэўныя захады».

Міліцыянты не заміналі актывістам, але ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў іх было ці не ўдвая болей, чым слухачоў. Былі і міліцыянты ў форме, і людзі ў цывільным, і нават спартовага выгляду дзяўчаты, якія заявілі: «Мы — з «Арыфлэйму!» Але «гандляркі касмэтыкай» стаялі ў адным шэрагу зь міліцыянтамі, і нехта з прысутных паведаміў, што сёлета ў віцебскі АМОН і ў міліцыю вялікі недабор, таму ахвотна бяруць і дзяўчат.

Пасьля лекцыі, якая пад пільным назіраньнем была нядоўгай, усіх слухачоў «праводзілі» з парку «пад вартай» — усьлед за кожнай групай актывістаў ішлі 2–3 чалавекі, кажа Хрыстафор Жаляпаў:Нас траіх праводзілі два чалавекі ў цывільным — да самага чыгуначнага вакзалу«Я правёў парадрыхтаваную лекцыю, у нас там абмен думкамі атрымаўся… а вакол нас стаялі чалавек 15 розных прадстаўнікоў праваахоўных органаў, яны таксама паслухалі… І мы пайшлі кожны сваёй сьцежкай дахаты. Нас траіх праводзілі два чалавекі ў цывільным — да самага чыгуначнага вакзалу».

Абышлося без затрыманьняў. На думку спадара Жаляпава, такія мерапрыемствы трэба ладзіць часьцей, калі ўжо ні на пікеты, ні на мітынгі дазволу атрымаць немагчыма.

Пікет 10 сьнежня хацелі правесьці віцебскія праваабаронцы, але Чыгуначная раённая адміністрацыя забараніла. Такія забароны раённыя ўлады практыкуюць ужо два гады, і яшчэ ніводнага разу дазволу атрымаць не ўдалося.

У Наваполацку таксама былі забаронены пікет да чарговых угодкаў прыняцьця Дэкларацыі правоў чалавека. Тамтэйшыя ўлады спасылаліся на рашэньне гарвыканкаму, які год таму выкрасьліў пляцоўку каля гарадзкога Дома культуры з шэрагу месцаў, вызначаных для масавых акцый. Але гэта шырока абвешчана не было, і наваполацкія актывісты проста ня ведалі пра перамены. Таму яны падалі паўторную заяўку — каб правесьці пікет ужо на пляцоўцы каля парку культуры і адпачынку. Гэтае месца засталося адзіным на ўвесь горад, дзе ўлады дазваляюць зьбірацца на масавыя імпрэзы.

**Паводле " Радыё Свабода".**

КРЫМІНАЛ

# "Ценявы" бізнэс прыкрылі

**У Віцебску супрацоўнікамі інспекцыі па справах непаўнагадовых і аддзела па наркакантролі і процідзеянню гандлю людзьмі Віцебскага РАУС выяўлены самы буйны факт незаконнай рэалізацыі насвая.**

Трывогу забілі педагогі адной са школаў раёна, якія паведамілі пра магчымае ўжыванне вучнямі некурыцельнага тытунёвага вырабу. Пад час правядзення аператыўных мерапрыемстваў сляды прывялі ў абласны цэнтар.

Пункт гандлю «здалі» самі падлеткі, якія не раз заходзілі да добрых цётак за дозай (у кватэры працаваў сямейны падрад – непрацуючая 39-гадовая жанчына і яе састарэлая маці). Жанчынаў вырашана было браць на жыўца. У ролі пакупніцы выступіла інспектар ІСН РАУС. За рэалізаваныя ёй 70 грамаў насвая віцяблянкі ўзялі 22 тысячы рублёў. Вядома, драбніца ў параўнанні з іх месячным заробкам у 6-7 мільёнаў.

Падчас агляду кватэры гандляроў зеллем, санкцыянаванага пракурорам раёна, супрацоўнікамі ІСН і аддзела па наркакантролі і процідзеянню гандлю людзьмі Віцебскага РАУС выяўлена і канфіскавана 24,5 кг насвая на агульную суму звыш 9 мільёнаў рублёў. Мяркуючы па запісах у вучнёўскім сшытку, тут строга вялася «чорная» бухгалтэрыя.

Нягледзячы на тое, што ў склад насвая ўваходзяць шкодныя інгрыдыенты, недарагі «тытунец» карыстаецца папулярнасцю ў падлеткаў. За час правядзення агляду памяшкання за «таварам» заходзілі больш за 20 кліентаў, некаторых з якіх вартавыя парадку перадалі бацькам.

Па словах праваахоўнікаў, на сённяшні дзень усталявана пяць фактаў рэалізацыі выраба жыхарам Віцебску і раёна. І хаця насвай не адносіцца да наркатычных і псіхатропных сродкаў, вытворчасць і зварот некурыцельных тытунёвых вырабаў, прызначаных для смактання, у нашай краіне забаронены.

Па фактах справы матэрыял накіраваны ў ІМПЗ Першамайскага раёна г. Віцебска. Гаспадыням «ценявога» бізнэсу пагражае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці за занятак незарэгістраванай дзейнасцю па ч.2 арт.12.7 КаАП РБ, якая прадугледжвае накладанне штрафу ад 20 да 50 базавых велічыняў за кожны факт.

**Ян Сведка.**

# Вось такая справядлівасць

**Следчы камітэт спыніў расследаванне па крымінальнай справе ўзбуджанай у траўні 2011 года супраць супрацоўнікаў Першамайскага РАУС Віцебску, якія здабывалі неабходныя сведчанні незаконнымі метадамі. Намеснік начальніка галоўнага следчага камітэту Міхась Алешкін паведаміў, што расследаванне спынена на падставе п.2 ч.1 арт.29 УПК РБ («за адсутнасцю ў дзеі складу злачынства»). Тым часам, сваякі пацярпелых абураны такім рашэннем і лічаць, што справу проста замялі.**

Зверскае забойства за Віцебскай абласной лякарняй (больш 60 колата-рэзаных ран) было здзейснена 14 чэрвеня 2009 гады. Праз два тыдні па падазрэні ў забойстве былі затрыманыя віцебскія падлеткі А. Логінаў, А. Напаюк, А. Аўчарaў. Абвінавачванне было прад'яўлена Логінаву і Напаюку. 29 лістапада 2010 г. (праз 17 месяцаў пасля затрымання) непаўналетнія былі прызнаны невінаватымі Магілёўскім абласным судом і вызвалены з-пад варты ў зале суда. 18 лютага 2011 гады калегія Вярхоўнага суда не задаволіла пратэст пракуратуры і прызнала прысуд законным.

Віцебскія гімназісты правялі за кратамі паўтара гады, пакуль у канцы лістапада 2010 г. Магілёўскі абласны суд іх не апраўдаў (пракурор прасіла 14 гадоў).

Менавіта на судзе ў Магілёве абвінавачваныя распавялі, якім чынам у іх здабывалі сведчанні ў РАУС Першамайскага раёна Віцебску. Каб выбіць у непаўнагадовых яўку з павіннай, следчыя сажалі ў рот пісталет, катавалі з дапамогай адвёртак і процігазаў, пагражалі апусціць уніз галавой у Дзвіну і г.д. Усё гэта суправаджалася збіваннямі. Пра прысутнасць на допытах адваката ці законнага прадстаўніка непаўнанагадовых гаворкі нават не ішло…

У склад групы ўваходзілі оперупаўнаважаныя аддзялення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі Першамайскага РАУС Віцебску Г.Д. Цітоў (старэйшы), А.Н. Шылін, А.М. Карчэўскі, Г.В.Лавіцкі, а таксама оперупаўнаважаныя ўправы крымінальнага вышуку ЎУС Віцебскага аблвыканкама О.О. Петэрсан,І. А. Гілько, В.В. Шашкін, С.В. Болдышаў і оперупаўнаважаны па асоба важных справах ГУУР КМ МУС Рэспублікі Беларусь А.П. Грэкаў. Кіраўніком следчай групы быў нейкі час Юры Шацько, цяпер намначальніка Следчага камітэта па Віцебскай вобласці.

Цікава, што пацярпелыя праходзілі па справе пра катаванні ў якасці сведак. «Уявіце сабе, яны праходзілі як сведкі таго, што іх збівалі…» – абурaецца законная прадстаўніца яшчэ аднаго пацярпелага Святлана Альшэўская.

Па яе словах, у самым пачатку следчы Мікалай Шылаў назваў гэта расследаванне «рэзананснай справай рэспубліканскага значэння»: «Ён прымусіў нас і нашых дзяцей паўтара гады перажываць гэты кашмар нанова. А ў выніку – пшык…Спыненне расследавання – гэта спроба абараніць заплямлены мундзір. Прычым заплямлены не толькі брудам, але і крывёй. А значыць, бязмежжа будзе працягвацца ў нашай краіне і надалей».

Аляксандр Лагінаў, які вытрымаў катаванні і не прызнаў віны, цяпер служыць у войску. Дык вось дзяржава апусціла яго ніжэй ліштвы, зрабіла амаль інвалідам. У яго сёння праблемы са спіной і хрыбетнікам...

Маці Аляксандра Напаюка, які таксама правёў за кратамі паўтара гады, кажа, што сын дагэтуль прачынаецца па начах з дзікім крыкам: «Не трэба!»

**Якаў Дрозд.**

НАША СПАДЧЫНА

# Турыстычны праект

**Пра тое, што брэндам Віцебскага раёна можа стаць самы высокі ў свеце чалавек – Фёдар Махноў, які нарадзіўся ў в. Касцюкі, непадалёк ад Старога Сяла, заявіў начальнік аддзела фізічнай культуры, спорту і турызму райвыканкама Дзяніс Жаваранкаў на Міжнароднай выставе «Турбізнэс-2012», якая праходзіла ў Менску.**

Згодна дзяржаўнай праграме развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь на 2011-2015 гады прадугледжана фармаванне рэгіянальных брэндаў. З гэтай мэтай у раёне была створана ініцыятыўная група, у склад якой увайшлі мясцовыя краязнаўцы, гісторыкі, грамадскія дзеячы: Людміла Мікіціна, Міхась Дук, Мікалай Півавар і іншыя. Менавіта яны мусяць з усёй культурна-гістарычнай спадчыны раёна абраць «цуд», годны ўвагі турыстаў.

Адной з такіх неардынарных з'яваў і быў мясцовы велікан Фёдар Махноў, рост якога быў 2 метры 85 сантыметраў.

Захавальніца музея Старасельскай школы Маргарыта Юшкевіч, якая збірала экспанаты побыту з жыцця волата, мяркуецца ўзначаліць адраджэнне Веліканавай сялібы.

Пад рэалізацыю турыстычнага праекту будзе вылучана неабходнае фінансаванне, за кошт якога маюць намер давесці да ладу і добраўпарадкаваць пад'язную дарогу да сялібы, аздобіць магілу. Музей мясцовай школы таксама мае патрэбу ва ўкладанні сродкаў, неабходна паклапаціцца і пра належную інфраструктуру.

На будучым маршруце пад назвай «Край цудаў, герояў і легенд», вандроўнікі змогуць наведаць таксама і музей-сядзібу Іллі Рэпіна «Здраўнёва», ацаніць гасціннасць Прыдзвінскага Дзеда Мароза ў рэзідэнцыі Барвін-Перавоз, палюбавацца помнікамі архітэктуры пачатку ХХ стагоддзя ў в. Лужасна, а пазнаёміцца з побытам нашых продкаў можна будзе ў музеі «Гісторыя Заронаўскага краю».

Распрацоўнікі праекту мяркуюць, што падобны маршрут павінен прыцягнуць турыстаў і зрабіць адпачынак у Прыдзвінскім краі запамінальным.

**Ян Сведка.**

ЗДАРЭННІ

# У ВІЦЕБСКУ АДМЯНІЛІ ВЫСТАВУ АЛЕСЯ МАРАЧКІНА

**Экспазіцыя мелася адчыніцца 30 лістапада ў выставачнай зале мастацка-графічнага факультэта ВДУ. Але адміністрацыя перадала праз куратарку выставы, што ва ўніверсітэце цягам тыдня будзе праходзіць пераатэстацыя і зала будзе занятая.**

Нягледзячы на тое, што адкрыццё выставы Аляксея Марачкіна „Вяртанне" было запланаванае належным чынам, дэкан мастацка-графічнага факультэта ВДУ Дзмітрый Сянько паведаміў, што выстава адмяняецца.

Карціны для экспазіцыі павінны былі прыбыць у Віцебск раніцай 26 лістапада. Прабачэньня за раптоўную адмену выставы ніхто не папрасіў. З ВДУ нават не патэлефанавалі, каб папярэдзіць. Аляксей Марачкін кажа, што не збіраўся выстаўляць нейкія творы правакацыйнага зместу. Што адмыслова падабраў работы, каб там не было нонканфармізму, узяў раннія працы з віцебскага перыяду.

**Ян Сведка.**

# Пажар у Лужасна

**23 снежня на пажары ў Віцебскім раёне мужчына выратаваў ад згубы пакінутых без нагляду суседскіх дзяцей.**

Паведамленне пра пажар у кватэры па вуліцы Спартыўнай у г.п.Лужасна паступіла ад суседкі ў МНС а 9.31. Па прыбыцці на месца выкліку першага падраздзялення назіралася задымленне ў двухпакаёвай кватэры. У ёй пражывае жанчына з двума дзецьмі –дзяўчынкамі 2007 і 2008 года нараджэння. На момант пажару малыя знаходзіліся адны, але яшчэ да прыбыцця падраздзяленняў МНС дзеці былі выратаваныя суседам. Пацярпелых няма. Працаўнікамі МНС пажар ліквідаваны.

Прычыны пажару высвятляюцца. У памяшканні кухні пашкоджана маёмасць, абкурадымлены сцены.

Усяго за суткі ў Беларусі зафіксаваныя 44 пажары, падчас якіх загінулі 9 чалавек, выратаваных 7 чалавек.

**Ян Сведка.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# 2012 – НЕПЕРААДОЛЕНЫ БАР'ЕР

КАЛІ РАЗВІТВАЛІСЯ З 2010 ГОДАМ, БЫЛО ГОРКА ЗА НЯСПРАЎДЖАНЫЯ СПАДЗЯВАННІ І СТРАШНА ЗА БУДУЧЫНЮ. ПРОВАДЫ 2011-ГА — ЯК ПЕРАПРАВА ПРАЗ БУРЛІВУЮ РАКУ: ПАСЛЯ МУСІЦЬ БЫЦЬ ЛЯГЧЭЙ. НАПРЫКАНЦЫ 2012-ГА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ЎСЁ — І АДМОЎНАЕ, І ПАЗІТЫЎНАЕ — ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ.

Пачыналі гэты год на хвалі эмоцый ад раптоўнага эканамічнага абвалу. І, хаця эксперты канстатуюць, што насельніцтва Беларусі збяднела, напрыканцы снежня стала вядома, што ў сярэднім па краіне атрымалася вярнуць заробкі на ўзровень канца 2010 года.

Так, міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна на днях заявіла, што ў рэспубліцы па выніках года сярэдняя заработная плата дасягне вызначанага Лукашэнкам узроўню ў 500 долараў у эквіваленце. Мантра «па пяцьсот», як бачым, працуе. Канешне, не трэба забывацца пра сярэднюю тэмпературу па бальніцы. Тым больш, гэта пацвярджае вывучэнне патэнцыйных заробкаў з базы вакансій — прапановы заробку да 2,5 мільёнаў беларускіх рублёў для рэгіянальных гарадоў надзвычай пашыраныя, і ад запаветных «усім па пяцьсот» гэта далёка.

На наступны ж год падрыхтаванае новае заклінанне: не так даўно міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў заявіў, што ў новым 2013 сярэдняя зарплата беларусаў дарасце да 700 долараў. Кіраўнік Мінэканомікі выказаў упэўненасць, што заўлены ў якасці прагнознага параметра ў 2013 годзе рост сярэдняй зарплаты па краіне да 700 долараў у эквіваленце будзе выкананы, рэзервы для гэтага ёсць.

Апроч эканамічных тэмаў, якія, безумоўна, кранalі розум і душу большасці насельніцтва, цягам года ў Беларусі былі падзеі, цікавыя больш вузкай аўдыторыі. На жаль. Так, у сакавіку былі прыведзеныя ў выкананне смяротныя прысуды Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, якіх Вярхоўны суд прызнаў вінаватымі ў арганізацыі выбуху ў мінскім метро ў красавіку 2010 года. Справа была неадназначнай, назіральнікі апелявалі да шматлікіх нестасовак, супярэчнасцяў у доказнай базе. Тым не менш прысуд быў выкананы, і рэакцыя на яго была такой жа: адны ўхвалілі пакаранне, другія неслі партрэты Улада Кавалёва да мемарыяла побач з уваходам у метрапалітэн.

Напрыканцы года беларускія праваабаронцы арганізацыі назвалі праваабаронцам года Любоў Кавалёву — маці Уладзіслава, якая ўвесь гэты час змагалася за свайго сына, і працягвае гэта рабіць цяпер. Толькі ўжо ў спробах аднавіць яго добрае імя. Негатыўнай была рэакцыі і з боку Еўрапейскага саюза, адкуль прыйшло паведамленне, што «смяротнае пакаранне ў любых абставінах разглядаецца як жорсткае і бесчалавечнае пакаранне, якое перастае быць сродкам стрымлівання і ўяўляе сабой недапушчальнае адмаўленне чалавечай годнасці і недатыкальнасці».

На канец года ў Беларусі, паводле ацэнак праваабаронцаў, ёсць 12 палітзняволеных. Сярод іх і былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч. «19 снежня 2010 года — дзень выбараў прэзідэнта — дата, якая стала кропкай незвароту, калі масавыя затрыманні, катаванні ў турмах і бяспраўе з боку сілавікоў стала ўвайшлі ў жыццё беларусаў», — эмацыйна пішуць праваабаронцы ў другую гадавіну падзей у дзень выбараў. Усе пералічаныя аспекты ўвайшлі ў жыццё беларусаў, але беларусы ў адказ на гэта пастараліся максімальна сысці ў свой свет, абстрагаваны ад палітыкі. Дом, сям'я, праца, пошук сродкаў на жыццё, эміграцыя (палітычная і эканамічная) — 2012 год стаўся годам абывацеля, калі на першы план выступілі патрэбы і зацікаўленасці з першых прыступак знакамітай піраміды Маслоў.




Да скандалу з невыкананнем плану па алімпійскіх медалях (але варта прызнаць, што беларуская зборная выступіла ўсё ж годна: 13 медалёў у 7 відах спорту; з іх 3 залатыя, 5 сярэбраных і 5 бронзавых) крыху пазней дадалося расчараванне ў сувязі з ануляваннем перамогі штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук — яе абвінавацілі ў прымяненні допінгу і забралі залаты медаль.

Тым не менш напрыканцы года ў беларусаў была нагода для гонару: ФК «БАТЭ» стаў чэмпіёнам у дзявяты раз і сёмы запар. Акрамя таго, у гэтым годзе БАТЭ выключна выступіў у Лізе чэмпіёнаў — каманда Віктара Ганчарэнкі атрымала перамогі над французскім ФК «Ліль» і нямецкай «Баварыяй». Гэта той выпадак, калі без загадаў зверху прадстаўнікі Беларусі дасягаюць поспеху. Застаецца верыць, што не за гарамі дзень, калі добрая воля і адчуванне ўласнай свабоды, а не пагрозы адправіцца на нары за нявыкананыя разнарадкі зверху, будуць падштурхоўваць нашых суайчыннікаў да перамог і трыумфаў ва ўсіх сферах, і на тэрыторыі сваёй дзяржавы.

**Вольга Хвоін, "Новы час».**

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# СЁНЬНЯ – ПАЎЛАВІЧЫ, А ЗАЎТРА – ТЫ

ДЫ З ЛЮДЗЬМІ ТРЭБА БЫЛО СПАЛІЦЬ ТЫЯ ХАТЫ Ў ВЁСЦЫ ПАЎЛАВІЧЫ ПАД ВІЦЕБСКАМ, ПІША СВЯТЛАНА КАЛІНКІНА Ў «НАРОДНАЙ ВОЛІ». ЛЮДЗЕЙ НА МАРОЗ З УСІМІ РЭЧАМІ, ЯК ПРЫ РАСКУЛАЧВАНЬНІ, — ГЭТА Ж САБЕ ВОРАГАЎ ПАКІДАЦЬ, СЬВЕДАК. А НАВОШТА НАШАЙ УЛАДЗЕ ВОРАГІ?.. НАВОШТА СЬВЕДКІ?.. ПАЛІЦЬ ТРЭБА БЫЛО! ЗЬНІШЧАЦЬ! СЬЦІРАЦЬ З ТВАРУ ЗЯМЛІ!

**Не дадумаліся. Усяленскай значнасьці падзея — Лукашэнка ў картэжы міма праедзе** і, можа, галаву ў гэты бок паверне. А тут — прыгажосьць. Чысьценькароўненька. Ніякіх развалюхаў, ніякіх незадаволеных асобаў. Ціха.

Поле... Ды такое, што проста падмецена. Значыць, рыхтаваліся, як ніхто раней. Можа, ацэніць...

Пах гару?.. **Наконт гару прэзыдэнт указаньняў не даваў**, толькі б сьмецьця не было.

...**Хто скажа, што віцебскія ўлады ў сваім розуме**, калі аддалі загад тэрмінова адсяліць, зьнішчыць, спаліць вёску, якая, хоць і фантомная, але жыла, агароды садзіла, нават на выбарах галасавала?

Ад фота, ад аповедаў людзей, якія ўсё гэта перажылі, ад сьведчаньняў журналістаў першая рэакцыя — шок.

У імя якой вышэйшай мэты людзей можна вось так? Без падрыхтоўкі, без папярэджаньня, не даўшы часу на зборы — выкінуць з абжытых дамоў у мароз. Яны ж усё жыцьцё гэта дабро нажываць. Кожны тазік і чыгунок, кожны абрус. Гэта іх крэўнае, гэта іх жыцьцё. Нават калі юрыдычна гэта ўжо ня іх дамы, то гэта іх дошкі. Чаму ўсё пайшло ў агонь, каб не мазоліць вачэй высокаму госьцю?

**Псыхоз і вар'яцтва.** Нездаровае жаданьне выслужыцца. Паталягічнае. Фанатычнае.

Ці страх. Такі, калі чалавек на ўсё гатовы. Калі ён сьляпы, глухі і ў нейкім сэнсе ўжо не чалавек зусім.

**Ці лютая, усёпаглынальная пагарда да ўсіх, хто статусам ніжэй.** Гэтакая ненармальная рэабілітацыя за ўласныя зьнявагі, якімі гэты статус здабываўся.

**Старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец — доктар.** Ён умее ставіць дыягназы і, напэўна, сам абярэ, які варыянт больш падыходзіць. Але калі кіраўнік Савету бясьпекі ад нарады да нарады вяшчае, што нехта вядзе з беларускай уладай інфармацыйную вайну і мэтанакіравана спрабуе дыскрэдытаваць яе ў вачах народа, то я нават магу падказаць генэралу, дзе трэба нэўтралізоўваць пагрозу.

Пагроза — вось такія косінцы. Таму што ніякія ворагі ім не падказвалі, гэта яны самі дадумаліся да візыту Лукашэнкі выкінуць з дамоў людзей, а непрэзэнтабельную вёсачку проста спаліць.

І тым самым зрабілі максымум магчымага, каб увесьці ў ступар, у шок, у абурэньне ўсю краіну. Таму што кожны, хто даведецца пра здарэньне, прыкладзе ўсю гэтую сытуацыю на сябе, і жахнецца. Таму што сёньня — Паўлавічы, а заўтра — ты. Сёньня — на мароз, а заўтра — разам з людзьмі.

Усякае было. Але такога ўсё ж такі раней не было...

САЦЫЯЛЬНЫЯ ПЫТАННІ

# ЦЭНЫ НА НАВУЧАННЕ Ў БЕЛАРУСКІХ ВНУ ТАРМАЗІЦЬ НЯМА ЧЫМ

ДАРУЧЭННЕ РАЗАБРАЦЦА З ВЫСОКАЙ ПЛАТАЙ ЗА АДУКАЦЫЮ КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ ЗРАБІЎ 21 СНЕЖНЯ ПАДЧАС НАВЕДВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА ІНФАРМАТЫКІ І РАДЫЁЭЛЕКТРОНІКІ. РАЗАБРАЛІСЯ ХУТКА.У ГЭТЫ Ж ДЗЕНЬ МІНІСТР АДУКАЦЫІ ЗАЯВІЎ, ШТО НЯМА НІ РЭСУРСУ ДЛЯ ЗНІЖЭННЯ ПЛАТЫ ЗА НАВУЧАННЕ, НІ ПАТРЭБЫ Ў ГЭТЫМ.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што кошты на навучанне ў Беларусі «даволі высокія» і іх варта «прытармазіць»: «З гэтым трэба разабрацца». Звяртаючыся да кіраўніцтва Міністэрства адукацыі і Адміністрацыі прэзідэнта, кіраўнік дзяржавы заявіў: на першых двух курсах вучобы аплата павінна быць «зберагалай», а на старэйшых курсах - «трэба пагледзець».

У 2011-2012 навучальным годзе кошт навучання ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установы Беларусі павышалася чатыры разы: 1 верасня 2011 года - прыкладна на 20%, у кастрычніку-лістападзе - на 25%, 1 лютага 2012 - на 29%, 1 чэрвеня - на 5%.

Каментуючы даручэнне кіраўніка дзяржавы, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч заявіў, што ў Беларусі няма рэсурсу для зніжэння платы за навучанне ў ВНУ і патрэбы ў гэтым. «У нас датуецца платную адукацыю, трація бягучых і капітальных выдаткаў аплачвае дзяржава. На наступны год у бюджэце краіны не запланаваны расходы на кампенсацыю студэнтам-платнікам», - паведаміў Маскевіч.

У любым выпадку, відавочна, што плаціць студэнтам даводзіцца няmala. Паводле звестак Мінадукацыі, у гэтым навучальным годзе кошт платнага навучання на дзённай форме ў ВНУ складае ад 7 млн. 153 тыс. рублёў (каля 800 даляраў) да 14 млн. 950 тыс. рублёў (1750 даляраў).

Пры гэтым у даляравым эквіваленце ў некаторых ВНУ кошт навучання недацягвае да дакрызісных тарыфаў. Напрыклад, студэнту медуніверсітэта ў канцы 2010 года трэба было плаціць максімум 5 млн. 430 тыс. рублёў за год (1750 даляраў). Цяперашняя максімальная плата (лячэбнае справа) - 13 млн. 700 тыс. рублёў (1600 даляраў).

Беларускі дзяржаўны універсітэт лідзіруе ў кошту навучання ў Беларусі: максімальная аплата на першым курсе - 14 млн. 950 тыс. рублёў («правазнаўства» і «эканамічнае права» на юрыдычным факультэце, «міжнароднае права» на факультэце міжнародных адносін). Гэта 1750$ (па курсе 8540 рублёў за долар). На 1 верасня 2010 года навучання на самых дарагіх спецыяльнасцях БДУ складала 5 млн. 327,6 тыс. рублёў, або 1775 даляраў (пры курсе 3000 рублёў за долар).

Адзначым, што ў Беларусі налічваецца больш за 430 тыс. студэнтаў, з іх амаль 90% навучаюцца ў дзяржаўных ВНУ. Звыш 88 тыс. студэнтаў прынята на навучанне ў 2012 годзе. І толькі кожны трэці студэнт ВНУ краіны навучаецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Такім чынам, большасць - платнікі.

Па-першае, павелічэнне набору за кошт платнікаў становіцца прычынай перагружанасці ВНУ і пагаршэння умоў навучання для ўсіх. Па-другое, студэнты-платнікі знаходзяцца на асаблівым становішчы. Няўдачнікаў платнікаў цягнуць з усіх сіл, таму што ВНУ ў іх матэрыяльна зацікаўлены. Плата студэнтаў вырашае праблему недафінансавання сферы адукацыі.

Кіраўнік дэпартамента палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ, Вільня) Віктар Марціновіч у каментарах для Naviny.by сказаў, што палеміка паміж прэзідэнтам і міністрам у яго разуменні з'яўлялася «размовай рэаліста з папулістам»: «Для іміджу, рэйтынгу ўлады было б добра, калі б рост коштаў на адукацыйныя паслугі можна было спыніць, аднак для гэтага няма рэсурсаў ».

Марціновіч адзначыў, што ў цяперашні час пытанне, хто з'яўляецца электаратам Лукашэнкі, адкрыты. Мяркуючы па пачасціўшыхся сустрэчам з рознымі пластамі насельніцтва - ад дрэваапрацоўшчыкаў да студэнтаў - адбываецца пошук новай электаральнай базы.

«Звярніце ўвагу, - кажа Віктар Марціновіч, - прэзідэнт час ад часу кажа аб лібералізацыі эканомікі, зніжэнні ўплыву дзяржавы на яе, што можа спадабацца нейкай часткі моладзевай аўдыторыі. Што датычыцца студэнтаў, трэба мець на ўвазе, што яны заўсёды і ўсюды супраць сістэмы. Таму Лукашэнка, які ўжо вельмі доўга знаходзіцца ва ўладзе, спадзявацца на падтрымку ў студэнтаў не даводзіцца ».

Гаворачы аб кошце навучання ў ВНУ Беларусі, Марціновіч адзначыў, што ён высокі. Ён прывёў прыклад: год у Сарбоне для першакурсніка, якое навучаецца па спецыяльнасці «юрыспрудэнцыя», каштуе 200 еўра і столькі ж трэба заплаціць за сацыяльную страхоўку. Марціновіч адзначае, што гэта звязана з тым, што сістэма платнай адукацыі ў Францыі існавала заўсёды. Там, у адрозненне ад Беларусі, пра бясплатную адукацыю ў Канстытуцыі нічога не напісана. Як вынік, сістэма працуе ў аптымальным рэжыме, а ў нас жа яна разбалансавана.

**Алена Спасюк, naviny.by**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЭНКА ВАЮЕ НА ДВА ЎНУТРАНЫХ ФРОНТА

ПЕРАДНАВАГОДНЯЯ РАЗДАЧА ПОЎХ БЕЛАРУСКАЙ НАМЕНКЛАТУРЫ ПРАЦЯГВАЕЦЦА. НАВЕДВАЮЧЫ 17 СНЕЖНІ СТАЛІЧНЫ "КАМВОЛЬ", АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА, АБУРАНЫ СТАНАМ СПРАЎ, ТУТ ЖА ЗВОЛЬНІЎ І ДЫРЭКТАРА ПРАДПРЫЕМСТВА, І КІРАЎНІЦТВА КАНЦЭРНА «БЕЛЛЕГПРАМ».

Новапрызначанага кіраўніка «Камволь», якому належыць выцягнуць ААТ з ямы, прэзідэнт даў наказ з бацькоўскай цеплынёй: «Не зробіш - пасаджу!». Заадно зрабіў апошняе папярэджанне ўраду Мясніковіча.

Чыноўнікі і дырэктарат ў апошнія месяцы дрэнна спяць і п'юць шмат валяр'янкі. Кіраўнік дзяржавы загадаў на 25-30% скараціць кіраўнічы апарат (гучна назваўшы гэта рэформай органаў улады), зняў кіраўніцтва спартыўнай галіны, звольніў кіраўніка КДБ, ну а ўжо галавы падпарадкаваных мяльчэй (у мінулым месяцы на «Івацэвічдрэў», цяпер на «Камволь») ссякалі, як капусныя качаны.

Ліберальныя аглядальнікі цвердзяць, што Лукашэнка канчаткова зрабіў стаўку на закручванне гаек ва ўсіх сферах. А нядаўні дэкрэт № 9, абмежаваныя правы работнікаў звальняцца з прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі (у імя поспеху мадэрнізацыі галіны), называюць, спаборнічаючы ў хвосткім эпітэтах, увядзеннем прыгону і нават рабства.

Атрымліваецца, што беларускі прэзідэнт не шкадуе ні наменклатуру, ні свой традыцыйны электарат? Павёў вайну на два фронты?

Прэзідэнт вырашыў ўспомніць маладосць

Эксперты адзначаюць, што Лукашэнка спрабуе трасянуць даўніной. У сітуацыі, калі абвастрыліся выклікі, ён «інтуітыўна ідзе на заціскання гаек, звяртаецца да метадаў, якія прынасілі яму адносны поспех у 90-х гадах», заявіў у каментары для Naviny.by дырэктар па даследаваннях менскага «Ліберальнага клуба» Яўген Прэйгерман.

«Гэта вяртанне да метадаў 90-х гадоў», - лічыць, са свайго боку, і эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валерый Карбалевіч. У інтэрв'ю для Naviny.by ён нагадаў: тады малады прэзідэнт хацеў спадабацца народу і падносіў чыноўнікаў як галоўных ворагаў простага чалавека, часта практыкаваў іх публічныя разносы.

Але ў тлустыя 2000-я гады гэтая практыка амаль спынілася, Лукашэнка стаў падлашчвацца з кіруючым класам. Зараз жа, з аднаго боку, абвастрылася патрэбнасць мадэрнізаваць эканоміку, з другога - упаў рэйтынг. І Лукашэнка, на думку Карбалевіча, вырашыў ўспомніць прэзідэнцкую маладосць - стаў прыцісказць наменклатуру.

Але другі раз увайсці ў тую ж раку праблематычна. Па-першае, ва ўмовах, калі папулярнасць афіцыйнага лідэра ўпала (рэйтынг, па дадзеных НІСЭПД, вагаецца ў раёне 30%), роля апоры на наменклатуру аб'ектыўна ўзрастае.

Па-другое, загваздка ў тым, што цяпер даводзіцца адначасова прыціскаць і рабацяг. Хаця Лукашэнка па іроніі лёсу б'ецца над задачай зноў купіць іх добразычлівасць, аднавіць сацыяльны кантракт, які пахіснуўся пасля леташняга фінансавага абвалу.

Разлік на страх і пакорлівасць

Так, скандальны дэкрэт № 9 (дарэчы, пакорліва прыняты да ведама Палатай прадстаўнікоў як раз у дзень разносу на «Камволь») прадыктаваны фармальна добрымі намерамі падняць галіну і заробкі ў ёй, каб адтуль нікога калом ня выгнаць было. Але, разважае Валерый Карбалевіч, наколькі адпавядае сацыяльнаму кантракту тое, што Лукашэнка «спрабуе падняць зарплату з дапамогай прыгоннага права»?

Раней прэзідэнт тонка адчуваў у адносінах як з чыноўнікамі, так і рабацяг тую мяжу, за якую пераходзіць нельга, адзначае аналітык. Але цяпер «ён блізкі да таго, каб пераступіць гэтую мяжу».

Вядома, тут дзейнічае разлік на страх і маўклівасць. Гэта стан характэрна як для вярхоў, так і для нізоў. Лукашэнка трымае наменклатуру ў падпарадкаванні паказальнай лупцоўкай,ператрахваннем кадраў. Магчымасць нейкага бунту на караблі, змовы (па сцэнары Крамля, напрыклад), палацавага перавароту практычна ўсім аналітыкам прадстаўляецца насення ілюзорнай.

Дарэчы, менавіта таму не можа быць патэнтаванай пераможнай стратэгіі для палітычнай апазіцыі. Сакралізаваная аднымі і развянчанай іншымі Плошча можа перамагчы толькі ва ўмовах раскол кіруючай эліты. Пакуль расколін не відаць і пад лупай. Але хто ведае, што будзе да 2015 году, калі працягнецца гэтая мадэрнізацыя ў стылі сякер-башка.

Ну а народ не столькі нават запалоханы (б'юць бо ў асноўным кропкава па нешматлікай інтэлігенцкай «пятай калоне»), колькі апалітычны і не верыць супернікам Лукашэнкі.

Але калі перапаўняецца чаша цярпення, маса хутка палітызуецца і знаходзіць стыхійных лідэраў. Так было вясной 1991 года, калі застылыя ў жаху насельнікі Дома ўрада ў Мінску ўбачылі пад вокнамі сто тысяч пануры пралетарыяў. Пры тым што Беларусь славілася апорай савецкага кансерватызму, «Вандэя перабудовы».

**Аляксандр Класкоўскі, "Белапан"**

ТАКАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# ПРЫГОННАЕ ПРАВА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

АЛЯКСАНДАР ЛУКАШЭНКА ПАДПІСАЎ ДЭКРЭТ № 9 «АБ ДАДАТКОВЫХ МЕРАХ НА РАЗЬВІЦЬЦЁ ДРЭВААПРАЦОЎЧАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ».

Згодна з дакумэнтам, работнікі галіновых прадпрыемстваў, якім аказваецца дзяржаўная падтрымка ў мадэрнізацыі вытворчасьцяў, будуць пераведзеныя на кантрактную форму найму.

Датэрміновае скасаваньне кантрактаў на час рэалізацыі інвэстыцыйных праектаў зь ініцыятывы супрацоўнікаў дапускаецца толькі са згоды наймальніка. Адмова наймальніка можа быць абскарджаная ў старшыні Менскага абласнога ці гарадзкога выканаўчага камітэту. З аднаго боку, прыбыткі ў дзяржаўным сэктары настолькі нізкія, што ўлады самі ж не пакідаюць іншага выйсьця, як шукаць шчасьця за мяжой. Зь іншага боку, цяперашняе заканадаўства не прадугледжвае ўвядзеньня «прыгоннага права», якім можна ўтрымліваць людзей на правах нявольнікаў.

Наведваючы пры канцы мінулага тыдня дрэваапрацоўчае прадпрыемства «Барысаўдрэў», Аляксандар Лукашэнка зрабіў гучную заяву. Ён распарадзіўся падрыхтаваць дэкрэт, згодна зь якім з прадпрыемстваў, якія мадэрнізуюцца за дзяржаўны кошт, звальняцца забараняецца. На думку Лукашэнкі, такі крок выгадны найперш самім працаўнікам, якія пасьля мадэрнізацыі заводу ў 2015 годзе пачнуць зарабляць «па тысячы даляраў».

Згодна з прэзыдэнцкім дэкрэтам, у выпадку парушэньня работнікамі працоўных абавязаньняў і звальненьня, сума атрыманых імі грашовых выплат падлягае вяртаньню за ўвесь пэрыяд працы.

Камэнтуе старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандар Ярашук: «Калі наша ўлада ячшэ больш хоча сябе дыскрэдытаваць і выклікаць абурэньне (дарэчы, справядлівае), то хай робіць такія захады. З майго пункту гледжаньня, улада першая расьпісалася ў нядзольнасьці рэалізаваць годную эканамічную палітыку, што і прывяло да таго, што людзі вымушаныя зьяжджаць — калі гаварыць пра працоўную міграцыю. І калі яны, скажам, працаўладкаваліся ў Расеі з заробкам у некалькі разоў большым, то гэта адбылося не таму, што ім вельмі так карцела. Яны проста вымушаныя так рабіць, бо дзяржава не пакінула выбару. І пры гэтым ім яшчэ, напэўна, трэба сказаць дзякуй, бо тым самым яны зьнялі пэўныя праблемы і зь недарэчнай палітыкі ўладаў. Яны зарабляюць грошы, яны ўтрымліваюць свае сем'і, і любыя захады, каб нейкім чынам пакараць іх, у тым ліку што тычыцца абяцаньня 100-працэнтнага спаганьня камунальных плацяжоў, я лічу, вядома ж, недапушчальнымі. Пра гэта і размовы быць ня можа».

Сытуацыя на прадпрыемствах і дрэваапрацоўчай галіны, і бальшыні іншых, падкантрольных дзяржаве, амаль што крытычная. З маральна састарэлых канвэераў выходзіць нікому не патрэбная прадукцыя, якая ў лепшым выпадку рэалізуецца на ўнутраным рынку.

У адсутнасьць экспартных паставак і, як вынік, валюты на рахунках абяцаньні выхаду на тысячу даляраў заробку выглядаюць утапічнымі. Супрацоўнікі таго ж «Барысаўдрэва» не хаваюць, што выжываюць на 150 даляраў у месяц, што ў 2-3 разы меней, чым сярэдняя пэнсія. У падвышэньне ў 6–7 разоў ня верыць практычна ніхто. Таму і лягічная тэндэнцыя: пабыўшы ў скуры жабракоў, масава зьяжджаюць на заробкі. Перадусім — у Расею, дзе такая ж праца ацэньваецца разоў у 10 вышэй.

Адмыслоўцы лічаць, што ўсё складаней утрымаць людзей на дзяржаўных прадпрыемствах нават абяцаньнямі заробку ў 500 даляраў, ня кажучы пра цяперашнія сярэднія 300. У беларускіх суседзяў прыбыткі ўжо даўно істотна перавышаюць гэты паказьнік — пры тым, што цэны на харчаваньне і асноўныя прадметы ўжытку як мінімум аналягічныя.

Калі ж разглядаць асобна дрэваапрацоўчую галіну, прасьвету і пагатоў не відаць. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэту, сёлета за 10 месяцаў адбылося зьніжэньне аб'ёму вытворчасьці па ўсіх асноўных таварных пазыцыях — пілаваных лесаматэрыялах, драўнянавалакністых плітах, шпоне і г.д. Растуць запасы гатовай прадукцыі: у цэлым па галіне — 64% сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасьці, а па асобных пазыцыях лічбы ўвогуле зашкальваюць. Так, запасы паркету перавышаюць 600% (!) сярэднемесячнага аб'ёму.

Не дадае падставаў да аптымізму і прэзьмерная закрэдытаванасьць прадпрыемстваў галіны: паводле дадзеных на 1 кастрычніка, крэдыторская запазычанасьць вырасла ад пачатку году амаль на 15%, дасягнуўшы 1 трыльёна рублёў. А запазычанасьць па крэдытах і пазыках інвэстыцыйнай накіраванасьці склала 3 трыльёны 300 мільярдаў рублёў.

**Ігар Карней, "Радыё Свабода".**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# «БЕЛВЕСТ» ПАД ПАГРОЗАЙ СПЫНЕННЯ: РАХУНКІ АРЫШТАВАЎ ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ

ПРАДПРЫЕМСТВУ НАЛІЧЫЛІ 8 МЛРД «ПАДАТКАЎ, ЗБОРАЎ, ПОШЛІНАЎ І ПЕНЯЎ». РАЗЛІКОВЫЯ РАХУНКІ ВЯДУЧАГА БЕЛАРУСКАГА ВЫТВОРЦЫ АБУТКУ, ВІЦЕБСКАГА «БЕЛВЕСТУ», ЗАБЛАКАВАНЫЯ.

Гэтую інфармацыю пацвердзілі TUT.BY некалькі крыніц. Супрацоўнікі прадпрыемства асцерагаюцца, што застануцца без заробку напярэдадні навагодніх святаў, абвінавачваючы ў гэтым прадстаўнікоў мясцовых дзяржорганаў.

У паведамленні прадстаўнікоў «Белвесту» сказана, што «Камітэт дзяржкантролю па Віцебскай вобласці, правёўшы праверку прадпрыемства, выявіў толькі станоўчыя і прыбытковыя вынікі працы. Пасля чаго дзяржорганы прынялі рашэнне, што з імі трэба дзяліцца». Таму 10 снежня напярэдадні выплаты зарплаты працоўным «службовымі асобамі Віцебскай падатковай інспекцыі былі арыштаваныя рахункі «Белвесту». У распараджэннях падатковай паказана, што «ў сувязі з невыкананнем або неналежным выкананнем ва ўстаноўлены тэрмін падатковага абавязацельства, нясплатай пеняў, спагнаць падаткі, зборы, пошліны і пені за кошт грашовых сродкаў, якія знаходзяцца на разліковых рахунках плацельшчыка» на суму больш за 8 млрд рублёў.

На «Белвесце „сцвярджаюць, што у іх „цалкам адсутнічаюць падатковыя і іншыя абавязацельствы перад бюджэтам". У той жа час банкамі прыпыненыя ўсе аперацыі па рахунках.

У „Белвеста" маюцца абавязацельствы па сацыяльнай абароне працоўных — „уласны пункт аховы здароўя, сталовая, якія патрабуюць штодзённых бесперапынных выдаткаў для належнага абслугоўвання работнікаў, выканання мер па ахове працы". „Прыпыненне ўсіх аперацый па рахунках наносіць непапраўную шкоду і ў сферы гаспадарчай дзейнасці — немагчыма своечасова выконваць крэдытныя абавязацельствы перад банкамі, абавязацельствы перад пастаўшчыкамі, ажыццяўляць закупкі сыравіны, матэрыялаў і абсталявання для вытворчасці абутку. Такім чынам, да Новага года без сродкаў да існавання застануцца больш за 2 тысяч працоўных; спыніцца вытворчасць абутку", — гаворыцца ў лісце супрацоўнікаў" Белвесту».

У Камітэце дзяржкантролю па Віцебскай вобласці сказалі, што «праверка» Белвесту «працягваецца».

На абутковым прадпрыемстве ўдакладнілі, што кантралёры цяпер знаходзяцца на дачным прадпрыемстве — «Белвестрытэйл».

У цяперашні час ільвіная доля прадукцыі «Белвесту» рэалізуецца ў РФ, дзе адкрыта вялікая сетка фірмовых крамаў.

Месяц таму Аляксандр Лукашэнка заявіў, што абутковая галіна Беларусі паразітуе на золатавалютных рэзервах дзяржавы. Ён таксама раскрытыкаваў прапановы ўрада па стварэнні гарбарна-абутковых холдынгаў.

**TUT.BY**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197.
Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 28.12.2012 у 18.50.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.